№ 153 (505)

Серада, 26 жніўня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля



**Взгляд из Минска**

## Что ждет от кремлевских перестановок Беларусь?









*Борис Ельцин: "Хватит рыбачить, Степаныч! Вишь, не пошли дела у Кириенко и Дубинина".*

Итак, в воскресенье вечером Россия была ошарашена решением президента Ельцина. Борис Николаевич отправил в отставку правительство Сергея Кириенко и назначил временно исполняющим обязанности премьера Виктора Черномырдина. Молодое правительство проработало 122 дня, а Виктор Степанович отсутствовал 154 дня.

По большому счету случилось то, что и должно было произойти. Не могли существовать вместе левый парламент и правое правительство. Невозможно жить и работать, когда высший законодательный орган гнет палку в свою сторону, а высший исполнительный — в свою. Правительство просит Думу утвердить одни законы, думцы наперекор их блокируют. В такой ситуации кем-то нужно жертвовать. У Ельцина был выбор: распустить Думу и сохранить Кириенко и его министров. Президент избрал другой путь. Почему?

Безапелляционно на этот вопрос, видимо, не ответит никто. К тому же всевозможных факторов так много, что версии можно просчитывать едва ли не десятками. Первый вариант, который, что называется, лежит на поверхности, — падение российского рубля. Вспомним, что еще за три дня до того, как это случилось, российский президент говорил в Новгороде, что рубль сохранит свой вес. Говорил с такой убежденностью и уверенностью, что в его слова невозможно было не поверить. Однако обвал российских денег поставил Ельцина в крайне неловкое положение. И потому можно принять как версию слова лидера фракции "Наш дом — Россия" в Госдуме Александра Шохина, который считает, что премьер Кириенко, руководитель Центробанка Дубинин и Анатолий Чубайс не сообщали президенту до конца всю глубину пропасти, в которую должна была упасть финансовая система России. Когда же Ельцин увидел, что произошло, он решил наказать провинившихся. И начал с премьера.

Есть и другое объяснение, которое первым представил один из лидеров движения "Яблоко" бывший посол Российской Федерации в Соединенных Штатах Америки Владимир Лукин. По его мнению, президент просто растерян от того, что произошло. И первое, что он сделал в этой ситуации, — забрал власть у молодых и вернул "к рулю" проверенного годами Виктора Черномырдина. Логично? Вполне.

Однако любой здравомыслящий человек понимает и другое — ну никак не могли Кириенко и его команда за три месяца развалить финансовый рынок такого огромного государства, как Россия. Об этом говорили, и достаточно открыто, что называется, без обиняков такие разные люди, как Егор Строев, Юрий Лужков, Владимир Жириновский... Все они считают, что Кириенко лишь разгребал те завалы, которые ему оставил Виктор Черномырдин. Особенно убежденно об этом говорил московский мэр. Он прямо обвинил Черномырдина в том, что тот, будучи главой правительства, пустил все дела на самотек. Отсюда и плачевные результаты.

Впрочем, на заявление Лужкова можно посмотреть и под другим углом зрения — выборным. Всем понятно, что в том случае, если Лужков и Черномырдин выдвинутся кандидатами в президенты России, то между ними будет борьба не на жизнь, а на смерть. И тот, кто наберет больше очков, упрекая соперника в грехах подлинных и мнимых, и получит больше шансов занять место в Кремле.

И тут я хотел бы вернуться к событиям пятимесячной давности, когда Виктора Черномырдина отправили в отставку. Тогда, комментируя это событие для "Народной воли", я высказал такую версию: мол, деловые и официальные круги в Москве сделали ставку на президентских выборах 2000-го года именно на Виктора Степановича Черномырдина. С должности главы правительства он, конечно, на президентский пост не избирался. И это объяснимо — уж больно много упреков слышалось со всех концов России в адрес правительства. Поэтому Черномырдина надо было вывести из-под удара. Что и было сделано.

После финансового кризиса ситуация принципиально изменилась. Теперь Виктор Степанович в случае возвращения его на должность премьера (не забудем, что его кандидатуру еще должна утвердить Дума, а эта тема для отдельного разговора) может выступить в совершенно другой ипостаси — спасителя государства. Особенно, если именно так захотят представить ситуацию средства массовой информации. И тогда Черномырдин становится наиболее реальным претендентом в президенты.

Я не думаю, что назначение и отставка Кириенко — часть заранее разработанного плана по повышению имиджа Виктора Черномырдина. Скорее, нынешняя ситуация лучше всего оценивается известной поговоркой: не было бы счастья, да несчастье помогло. Ведь говорил же сам Черномырдин во время своего пятимесячного "отпуска": "В этой стране не всегда поймешь, где выиграешь, где проиграешь".

Что ждет от кремлевских перестановок Беларусь? Учитывая, что личный фактор на постсоветском пространстве играет очень важную роль, можно ожидать определенных последствий кремлевской замены. И не столько в плане последствий для всей нашей страны, сколько лично для президента Лукашенко. Но это опять-таки тема для отдельной публикации. Что же касается непосредственного влияния российских катаклизмов на нашу экономику, то этот процесс уже ощутили все: цены резко поползли вверх, стоимость белорусского рубля резко упала по отношению к доллару. Однако это только начало. Учитывая, что большинство энергоносителей и материальных ресурсов мы получаем именно из Российской Федерации, Беларусь должна подготовиться к росту цен на них. А это вызовет еще более высокую себестоимость и цену белорусских изделий. Значит, они будут еще более неконкурентоспособны на всех рынках.

Конечно, не учитывать особенность отношений Беларуси и России может только глупец. При любых обстоятельствах Минск и Москву будут связывать особые отношения. Однако в любом деле существует определенный предел, заходить за который опасно. Недаром же говорят, что умная хозяйка никогда не сложит яйца в одну корзину. А вдруг она выскользнет из рук... Беларусь в отношениях с Россией, на мой взгляд, переступила через этот порог и теперь будет причитать, как нерадивая хозяйка.

**Владимир ГЛОД.**

**Юбилеи**

## Новополоцку — 40!

Через неделю молодой белорусский город Новополоцк отмечает свое 40-летие. Городские власти готовятся достойно отметить юбилей. Заменяют асфальтовое покрытие тротуаров, планируются торжественное собрание, ярмарка и масса прочих традиционных праздничных мероприятий...

Понятно, что на торжествах будут витебские власти. Однако не известно, почтит ли своим присутствием юбиляра глава белорусского государства.

Тем не менее новополочане ждут у себя Александра Лукашенко.

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

**Жыццё як яно ёсць**

## Няма таго, што раней было

Глыбоцкі кансервавы завод цяпер вырабляе сорак найменняў плодаагародных кансерваў і сокаў. Раней гэты спіс уключаў больш за 80 назваў вырабаў прадукцыі.

Горш таго, буйнейшае ў галіне прадпрыемства вобласці да нядаўняга часу амаль паўгода прастойвала. Пакуль глыбачан выручае, што большасць іх кансерваў закупляюць камерцыйныя структуры ў глыб Расіі. І на суседніх заводах галіны сітуацыя няпростая. З 22 вытворчых калектываў, што ўваходзяць у аб'яднанне "Віцебскхарчпрам", на поўную магутнасць працуюць тыя, што вырабляюць спірт-рэктыфікат і пладова-вінаградныя віны. Пры вострай неабходнасці прыцягнення значных сродкаў на рэканструкцыю з боку магчымых інвестараў Глыбоцкі кансервавы завод нават фармальна не ўключылі сёлета ў спіс прадпрыемстваў, якія падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі.

**Уладзімір ШЫК.**

**Кропкі над "і"**

## Чаму Георгій Марчук сам пачаў скажаць свае словы?

І сапраўды, што прымусіла пісьменніка, дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгія Марчука скажаць уласныя словы?

Нагадаем сутнасць справы. Пасля сустрэчы з прэзідэнтам краіны пісьменнікі наладзілі прэс-канферэнцыю. Справаздача аб ёй была змешчана ў нашай газеце 8 жніўня. Вось што напісана ў ёй пра выказванні Марчука: "Як апавядаў Георгій Марчук, ён расчараваны сустрэчай, бо большую частку часу заняў сам прэзідэнт сваімі развагамі аб праводзімай палітыцы". А 15 жніўня "Народная газета" друкуе заметку Георгія Марчука пад загалоўкам "Я нікога не ўпаўнаважваў скажаць мае словы". Ён піша, што здзіўлены публікацыяй у "Народнай волі" і працягвае: "Уключыў я магнітафон, праслухаў яшчэ раз, што гаварыў, і падумаў: можа, аўтар справаздачы А.Драбчук проста недачувае ці палітыка ягонай газеты будуецца на фальсіфікацыі фактаў і хлусні?

А на самай справе маё выказванне гучала так: "Я незадаволены сустрэчай, бо Рада Саюза пісьменнікаў слаба да яе падрыхтавалася". Як бачым, істотная розніца. І я нікога не ўпаўнаважваў скажаць мае словы, каб вылушчыць патрэбную яму мэту".

Тут ужо здзівіліся мы. Ды, напэўна, і работнікі іншых выданняў: словы спадара Марчука зафіксаваныя ў блакнотах і на дыктафонных стужках многімі журналістамі.

Мы нічога не скажалі, а перадалі тое, што гаварыў на прэс-канферэнцыі спадар Марчук. І не мы адны. Спашлёмся на афіцыйную крыніцу — бюлетэнь Нацыянальнага прэс-цэнтра. Там вядзецца запіс прэс-канферэнцый на плёнку, затым выдаецца бюлетэнь. Дык вось як у ім падаецца выступ Марчука: "Асабіста я расчараваны ад сустрэчы пісьменнікаў з прэзідэнтам, таму што большую частку часу Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка затраціў на тое, каб расшыфраваць эканамічную, сельскагаспадарчую, міжнародную палітыку. Рада слаба падрыхтавалася да сустрэчы, былі выпадковыя выступленні".

Адкрываем "Белорусскую газету" за 10 жніўня. У артыкуле "Президент и писатели..." чытаем радкі, якія перадаюць выступ Марчука: "Лично я разочарован встречей с президентом, потому что большую часть этой встречи Александр Григорьевич отдал тому, чтобы расшифровать политику экономики... Мне кажется, что писательская Рада слабо подготовилась к этой встрече".

Цяжка паверыць, каб вушы і дыктафоны некалькіх журналістаў чулі і запісвалі тое, чаго нібыта не гаварыў Марчук. Вядома, яны зафіксавалі і перадалі тое, што чулі. Так што, відаць, сам Марчук недачувае, альбо ў яго нейкія праблемы з памяццю, калі ён помніць толькі пачатак і канцоўку таго, пра што гаварыў.

Не будзем абмяжоўвацца вытрымкай з бюлетэня Нацыянальнага прэс-цэнтра, фрагментамі справаздачы з "Белорусской газеты", давайце, шаноўныя чытачы, самі ўключым дыктафон і паслухаем, што ж гаварыў Георгій Марчук на прэс-канферэнцыі. Даслоўна:

"Асабіста я расчараваны сустрэчай з прэзідэнтам краіны, таму што большую частку гэтай сустрэчы Аляксандр Рыгоравіч мусіў аддаць на тое, каб расшыфраваць палітыку эканомікі, палітыку ўзаемаадносін з Захадам, з Усходам, палітыку, скажам, сельскай гаспадаркі, свайго стаўлення да некаторых пытанняў. Мне здаецца, што Рада слаба падрыхтавалася да гэтай сустрэчы".

Дык у чым справа? Гаварыў шаноўны Г.Марчук, што ён расчараваны сустрэчай з прэзідэнтам краіны? Гаварыў. Звярнуў ён увагу журналістаў на тое, што А.Лукашэнка большую частку гэтай сустрэчы "мусіў аддаць на тое, каб расшыфраваць палітыку эканомікі, палітыку ўзаемаадносін з Захадам, з Усходам, палітыку, скажам, сельскай гаспадаркі..."? Звярнуў. І аб гэтым — у пераказе А.Драбчука. Нічога аўтар не пераблытаў, ніякай фальсіфікацыі не дапусціў. Проста, як нам здаецца, шаноўны пісьменнік, які з'яўляецца дырэктарам дзяржаўнага выдавецтва "Мастацкая літаратура", знаходзіцца ў палоне страху перад высокім начальствам: што яно падумае пра яго выказванні? Якія, магчыма, зляцелі з яго вуснаў у эмацыянальным запале. Але слова не верабей...

І яшчэ. Па логіцы Г.Марчук павінен быў бы звярнуцца са сваімі прэтэнзіямі ў "Народную волю". І калі б мы дапусцілі якую недакладнасць, дык тут жа і выправілі б. Бо для нашай газеты самае галоўнае — аб'ектыўная, праўдзівая інфармацыя. І тое, што ён пайшоў у "Народную газету", у пэўнай ступені характарызуе і яе. Бо такія людзі, як гавораць, нюхам чуюць, куды можна ісці з падобным таварам.

Калі "Народная газета" сапраўды паважае сваіх чытачоў і прэзідэнта, яна павінна выправіць памылку. Думаем, што і акружэнню прэзідэнта таксама карысней аб'ектыўная інфармацыя. У тым ліку і пра тых, хто пры сустрэчы гаворыць адно, а за вочы — іншае.

**Резонанс на "Рэзананс"**

## Билл Клинтон более осведомлен о планах Бориса Ельцина, чем председатель Высшего Совета Беларусь—Россия Александр Лукашенко

Важнейшим событием прошедшего воскресенья и, естественно, недели стала отставка главы российского правительства. 35-летний Сергей Кириенко пробыл на этом посту 122 дня. Финансовый кризис, разразившийся в России в конце четвертого месяца руководства страной самым молодым в ее истории премьером, вынудил президента Б.Ельцина отправить правительство в отставку.

В кресло премьера, а точнее — на свое место, вернулся Виктор Черномырдин, находившийся в пятимесячном "отгуле".

Правительственный кризис в России стал темой номер один для всех мировых агентств. Прямую трансляцию происходящего у Белого дома вели российские теле-радиоканалы. Белорусское радио и телевидение об этом не ведало. Вездесущий А.Зимовский, владеющий информацией о каждом шаге белорусской оппозиции, о всех хвалебных высказываниях региональных российских "вождей" и провинциальных СМИ в адрес белорусского президента, не проронил в недельном "Рэзанансе" ни слова о важнейшем политическом событии союзного государства.

Александр Лукашенко возглавляет Высший Совет Союза Беларусь—Россия. И уж об этом-то своем шаге президент Ельцин должен был проинформировать председателя союзного объединения в первую очередь. Судя по гробовому молчанию белорусского радио и телевидения, Борис Ельцин 23 августа не сделал этого ни в первую, ни во вторую очередь. Президент А.Лукашенко, похоже, узнал об этом, как и я, в 19 часов из аналитической программы канала РТР.

Указ подписан в 18.20 по белорусскому времени. Уже в этот вечер президент Клинтон заявил, что аналитики и разведка Соединенных Штатов проинформировали его о назревавших событиях, в том числе и о кандидатуре В.Черномырдина на пост главы российского правительства.

Аналитики и разведка нашего государства заняты более важными для белорусского президента делами — отслеживанием деятелей оппозиции. Телевидение Беларуси не в состоянии показать прямой репортаж прощальной встречи Сергея Кириенко с пикетирующими уже 75 дней шахтерами на Горбатом мостике в Москве. По-видимому, все имеющиеся в наличии телекамеры задействованы президентскими спецслужбами для съемок десятков пикетов протеста в Минске и областных городах. В самом деле, Александру Лукашенко не до российских событий, когда собственное кресло через 150 дней начнут раскачивать.

Может быть, Александр Григорьевич последует примеру главы союзного государства Бориса Ельцина, официально объявившего, что не будет выдвигать свою кандидатуру на неумолимо надвигающихся президентских выборах?

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Сітуацыя**

## Выручыў гаспадарку — атрымаў штраф

Даўно не быў у такім прыгнечаным стане дырэктар саўгаса імя Ціміразева Глыбоцкага раёна, кандыдат эканамічных навук А.П.Сясіцкі, хоць за 30 гадоў кіравання і сёння моцнай гаспадаркай перажыў на сваім вяку многае. Зрэшты, даўно заўважана, што калі прычэпіцца да чалавека чорная паласа, то будзе яна не адна. Не паспелі яшчэ забыцца перажыванні ў кіраўніка з нагоды загінуўшых на чыгунцы спуджаных ноччу моцным громам 22 падцёлкаў, як тут новыя непрыемнасці. Упершыню за ўвесь час працы застанецца ягоны саўгас без своечасова выплачанай зарплаты, хоць людзі працуюць выдатна і таго зусім не заслужылі.

Справа ў тым, што падатковая інспекцыя налічыла гаспадарцы вялікі штраф у памеры 319 мільёнаў рублёў за патрачаныя наяўныя грошы ў аб'ёме, перавышаючым 50 мінімальных заработных плат. Доблесных чыноўнікаў не спынілі тлумачэнні, што патраціў іх Сясіцкі на закуп саляркі на дзяржаўнай аўтазаправачнай станцыі. У іншым выпадку два дні прастаялі б камбайны на прыколе і не ўбіраўся б хлеб. Але што да гэтых абставінаў нашай груваcткай адміністрацыйна-каманднай сістэме? Ніводзін чалавек не павінен выйсці за рамкі правілаў, якія часта проста перашкаджаюць справе. Залішняя рэгламентацыя усяго, у тым ліку гаспадарчай дзейнасці, толькі ўскладняе і без таго няпростае наша жыццё.

**Пётр КАРПІЦКІ.**

## Дэмакратаў заклікаюць да кансалідацыі

Старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта Беларусі Генадзь Карпенка сустрэўся ў мінулую суботу з прадстаўнікамі дэмакратычных колаў Магілёўскай вобласці. У абласным цэнтры сабраліся прадстаўнікі дзесяці раёнаў. Г.Карпенка расказаў пра эканамічную і грамадска-палітычную сітуацыю на Беларусі. Ён звярнуўся да прысутных з заклікам да кансалідацыі сіл на надыходзячых выбарах рознага ўзроўню: ад райсавета да прэзідэнцкіх. На думку прамоўцы, трэба, каб на прэзідэнцкіх выбарах дэмакратычныя сілы прадстаўляла адзіная кандыдатура, якая павінна вызначыцца шляхам перамоў паміж партыямі.

**Уладзімір КОТ.**

**Рэаліі**

## Куды пайсці, куды падацца маладому

Хоць сітуацыя на рынку працы некалькі палепшылася на Віцебшчыне, яна па-ранейшаму застаецца складанай. З больш чым 19 тысяч афіцыйна зарэгістраваных на ўліку ў цэнтрах занятасці кожны трэці беспрацоўны прыпадае на абласны цэнтр. Пераважаюць сярод іх каля пяці тысяч жанчын, многія з якіх маюць спецыяльную адукацыю. Няпроста знайсці сваё месца ў жыцці і маладому пакаленню. Справа ў тым, што палова выпускнікоў мясцовых тэхнікумаў і вучылішч, 300 атрымаўшых дыпломы віцебскіх ВНУ не былі накіраваны на работу, хоць на падрыхтоўку іх патрачаны значныя дзяржаўныя сродкі. Асабліва трывожна, што ўсяго не знаходзяць прымянення сваім сілам 4 000 маладых спецыялістаў. Становіцца зразумелым, чым выклікана неафіцыйнае ўказанне не прымаць на працу на дзяржпрадпрыемствы выпускнікоў недзяржаўных навучальных устаноў. Нікога не хвалюе, што за навучанне іх бацькі ўжо заплацілі вялікія грошы.

Новыя працоўныя месцы калі і ствараюцца, то ў асноўным у галіне дробнага прадпрымальніцтва, якое і само перажывае нялёгкія часы. Рэальна існуе магчымасць працаўладкавацца 3,8 тысячы чалавек. Толькі адзін з пяці жадаючых можа атрымаць работу. Астатнім, як і раней, прыйдзецца разлічваць на вартую жалю дзяржаўную дапамогу памерам у сярэднім 302,5 тысячы рублёў, якіх акурат хопіць на хлеб і соль.

**Уладзімір ПІСАРЭНКА.**

**Чулі?**

## Магілёўскія прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза маюць намер правесці своеасаблівыя акцыі пратэсту

Кіраўніцтва магілёўскай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза беларускага падало ў гарвыканкам заяўку на правядзенне 26 жніўня серыі своеасаблівых акцый пратэсту ў сувязі з праследаваннем членаў прафсаюза — рабочых Магілёўскага тралейбуснага ўпраўлення. У кожнай з гэтых акцый павінен удзельнічаць толькі адзін чалавек. Спачатку ён правядзе "пікетаванне" магілёўскай псіхіятрычнай бальніцы, потым — "вулічнае шэсце" па сцежках Пячорскага лесапарку, правядзе "адкрыты сход" Свабоднага прафсаюза на гарадскім пляжы ракі Днепр.

Далей мяркуецца правесці мітынг каля клуба глухіх і закончыць дзень пратэсту прыцемкам пікетаваннем каля прадпрыемства Таварыства сляпых. Падобная форма выказвання пратэсту выбрана Свабодным прафсаюзам Магілёўскай вобласці невыпадкова, паколькі Магілёўскі гарвыканкам, як правіла, забараняе пераносіць у малалюдныя месцы любыя акцыі пратэсту. Магілёўскі гарвыканкам не даў дазволу на правядзенне акцый. Магілёўская рэгіянальная арганізацыя Свабоднага прафсаюза дагэтуль ужо падавала тры іскі ў суд у сувязі з забаронай кіраўніцтва Магілёўскага гарвыканкама на правядзенне прафсаюзных акцый пратэсту.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

**Кинопремьеры**

## Нет повести печальнее на свете...

Чуть больше недели практически во всех столичных кинотеатрах проходит показ дерзкой голливудской экранизации трагедии Шекспира "Ромео и Джульетта".

Фильм База Лурмана, собравший несколько наград Британской академии кино, интересен совмещением оригинального шекспировского текста и современной молодежной субкультуры, очаровательной музыкой и участием знаменитого Леонардо Ди Каприо, получившего за роль Ромео приз Берлинского кинофестиваля.

Кстати, кинолента о трагической любви будет демонстрироваться в Минске еще целый месяц.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

## У сувязі з заканчэннем тэрміну сваіх паўнамоцтваў пасол Літвы Баўбліс не вернецца ў Мінск

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Віктарас Баўбліс спыняе дзейнасць на пасадзе пасла пасля заканчэння чатырохгадовага тэрміну яго паўнамоцтваў у Мінску.

Новы пасол у Мінску пакуль не прызначаны. Адзін з супрацоўнікаў літоўскага МЗС паведаміў BNS, што пытанне аб прызначэнні новага пасла "разглядаецца з выкананнем працэдур, звычайных для гэтага працэсу". Па яго словах, адкліканне Баўбліса не звязана з праблемай пасольскай рэзідэнцыі ў мінскім пасёлку Дразды. Між тым са спасылкай на "іншыя дыпламатычныя крыніцы" BNS паведамляе, што прызначэнне новага пасла звязана з вырашэннем праблемы рэзідэнцыі. 55-гадовы пасол паехаў з Мінска 19 чэрвеня ў бестэрміновы адпачынак, калі ўзнікла праблема з высяленнем з Драздоў. Вільнюс вядзе зараз перамовы з Мінскам аб новай пасольскай рэзідэнцыі.

**БелаПАН — BNS.**

## ВА "Беларусьнафта" ў ліпені гэтага года ўпершыню за два апошнія гады павялічыла здабычу нафты

Здабыча беларускай нафты ў ліпені гэтага года склала 157487 тон, ці 100,9 працэнта да ліпеня 1997 года і 104,3 працэнта да планавага задання. Спецыялісты канцэрна "Белнафтахім" лічаць, што ў другім паўгоддзі гэтага года рост здабычы нафты будзе ўстойлівым. Хаця, на іх думку, здабываць нафту становіцца ўсё цяжэй, паколькі зноў адкрываемыя месцараджэнні будуць невялікімі па памерах і ўтрымліваць вялікую долю цяжкавыбіраемых запасаў вуглевадароднай сыравіны, што павышае затраты на іх разведку і здабычу.

Па дадзеных ВА "Беларусьнафта", рэштkавыя разведаныя запасы нафты ацэньваюцца ў 71,1 мільёна тон, спадарожнага газу — 10,4 мільёна кубаметраў. Неразведаныя рэсурсы нафты ацэньваюцца ў 166,307 мільёна тон.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

Вострая тэма: дыскусія

# Сучасны фашызм – выдумка ці праява рэальнасці?

*6 мая бягучага года "Народная воля" надрукавала артыкул доктара навук Пятра Касцюковіча "Ідэалогія рускага фашызму ў сучасных умовах". Праз пэўны час на імя галоўнага рэдактара газеты І.П.Сярэдзіча паступіла пасланне з Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку за подпісам яго старшыні М.В.Падгайнага.*

*У ім — агляд накіраваных у Дзяржкамітэт пісьмаў грамадзян, выказваючых абурэнне артыкулам П.Касцюковіча ў прыватнасці і пазіцыяй газеты ў цэлым, абвінавачанні "Народнай волі" ў "антирусской направленности", "разжигании межнациональной розни" і іншых сапраўды страшных грахах. І як вынік гэтых абвінавачанняў — катэгарычнае патрабаванне ні многа ні мала — закрыць "Народную волю"...*

*Мы не будзем сёння гаварыць пра тое, як рыхтаваліся лісты ў Дзяржкамдрук, лепш прадаставім чытачам магчымасць азнаёміцца з пісьмом М.В.Падгайнага, якое мы друкуем без усялякіх змен і скарачэнняў, і роздумам нашых аўтараў над вострай тэмай, узнятай П.Касцюковічам.*

*Запрашаем усіх жадаючых выказаць свае думкі адносна закранутых у сённяшняй размове жыццёва важных праблем сучаснасці. Найбольш змястоўныя допісы змесцім на старонках газеты.*

*Главному редактору газеты "Народная воля"*
*И.П.Середичу*
*220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а*

Уважаемый Иосиф Павлович!

В Госкомитет по печати поступают письма от граждан Республики Беларусь и общественных организаций с выражением протеста по поводу ряда публикаций на страницах Вашего издания.

Одной из таких публикаций, вызвавших поток писем, явилась статья "Ідэалогія рускага фашызму ў сучасных умовах" в номере за 6.05.98 г.

Все авторы обращений в Госкомпечать отмечают антирусскую направленность статьи, попытку вбить клин между русским и белорусским народами, а также призыв к разжиганию межнациональной розни.

Так, гражданка Кузьмина Л.И. пишет: *"Я от своего имени и от имени моей семьи из 3-х человек выражаю своей протест против статьи П.Костюковича от 6 мая 1998 года в газете "Народная воля", где наносится оскорбление русским, да и не только русским, а и белорусам, обвинениями в так называемом "русском фашизме"... От имени живых и мертвых родных моих ветеранов и от своей семьи требую прекратить оскорбления и прикрыть газету "Народная воля". Выражаю этой газете свое глубокое презрение".*

Гражданка Абрамова Надежда Афанасьевна с негодованием пишет:

*"Статья возмутила желанием автора столкнуть лбами русских и белорусов. В то время, как наш Президент, выполняя волю народа, прилагает колоссальные усилия для сближения двух братских народов, веками живших в одном государстве в мире, дружбе и согласии, автор очень хочет поссорить нас, чтобы Белоруссия превратилась в еще одну "горячую точку". Далее Надежда Афанасьевна высказывает просьбу к Госкомпечати: "Если в Ваших силах предотвратить появление в печати подстрекательских материалов, направленных на разъединение наших народов, сделайте все, что от вас зависит, чтобы в дальнейшем всякие "доктора" типа Костюковича не имели доступа к средствам массовой информации и не мешали нашему Президенту в его благородной работе по укреплению дружбы наших народов".*

Инвалид II группы, пенсионер, Дрыго Людмила Яковлевна, пишет: *"Я очень возмущена газетой "Народная воля"! Я не могу понять, как могут люди, наши люди, учившиеся у нас уму-разуму, писать такие статьи. Мне 70 лет. Я все время жила среди всех народов. Был один Союз и всем было хорошо. Все нации были вместе, все понимали один одного. Так почему я сейчас под старость должна говорить только на белорусском языке. Они что думают, что от этого меньше люблю свою родину. Нет, я ее люблю...*

*...Простите меня, может я что не так пишу, но я не профессор наук, пишу как думаю, ибо так думают все порядочные люди. Еще хочу попросить. Газеты, которые печатают такую ложь, не должны существовать в нашей печати. Они очень громкие названия дают ей, а на самом деле газета не представляет интересов народа или же не знает своего народа".*

А вот как оценивает публикацию "Ідэалогія рускага фашызму" Арефьев Владимир Леонидович: *"Статья проникнута ложью в стиле гебельсовской пропаганды (чем невероятнее ложь, тем вероятнее в нее поверят), человеконенавистничеством, стремлением посеять рознь и вражду среди белорусского народа".*

Отмечая изложенные в статье нападки на русский народ, автор письма прослеживает, как они умело оборачиваются автором статьи против наших соотечественников, русских по крови. *"Таким образом, белорусы, чувствующие в себе древние русские корни, и должны будут по замыслу П.Костюковича принять на себя удар межнациональной розни за выдуманный им (Костюковичем) русский фашизм. Вот перст, указывающий на разжигание межнациональной вражды по Югославскому сценарию, когда славяне бьют славян в угоду Западу".*

Касаясь религиозного вопроса, затронутого в статье, автор пишет: *"...За свое тысячелетнее существование на Белой Руси православная церковь, как наиболее почитаемая, претерпела немало трудностей и гонений. И сейчас приходится стоять против нападок автокефалии, унии, насильственной белорусизации богослужения, экспансии исторически чуждых вероисповеданий и бесконечной череды сект. Так зачем понадобилось обвинять православную церковь в придуманных грехах? А только потому, что она была и есть православной опорой восточно-славянской культуры, морали и государственности. Это-то и не устраивает "Народную волю" и ее западных вдохновителей. И если до сих пор в Белой Руси не было национального и религиозного противоречия, то почему бы его не генерировать усилиями П.Костюковича через "Народную волю"!* Автор считает, что за "разжигание межнациональной и религиозной ненависти газета "Народная воля" достойна уголовной ответственности и не имеет права на существование".

В Госкомпечать обратился также Торжок Григорий Николаевич, сын жертвы фашизма, инвалид войны I группы, с просьбой о закрытии *"антинародной, антиславянской и русофобской газеты "Народная воля"* за то, что она *"бросает в землю Белой Руси, как Великой и Малой Руси, обильно смоченных кровью жертв фашизма, семена раздора, ненависти, жестокости".*

В письме Рыбникова Вячеслава Васильевича подчеркивается, что статья П.Костюковича *"направлена против Союза Беларуси и России, того союза, который необходим нашим народам".*

Отметим также, что не только у граждан республики вызвала протест статья П.Костюковича, но и у общественных организаций — Республиканского общественного объединения "Комитет трудового народа" и Минского городского общества русской культуры "Русь". *"Данная статья,* — пишут они, — *пример разжигания национальной вражды и ненависти... Наносится оскорбление православной церкви, возбуждается вражда к православным людям".* И далее: *"Такие антинародные газеты, как "Народная воля", не имеют права на существование. Если Госкомпечать не примет соответственных мер, мы будем рассматривать его как пособника возмутителей спокойствия и мира в Белой Руси и вынуждены будем искать правды в более высоких инстанциях".*

Считаем необходимым опубликовать на страницах газеты "Народная воля" обзор писем, поступивших в Госкомпечать на статью доктора технических наук П.Костюковича "Ідэалогія рускага фашызму ў сучасных умовах". Стилистика и орфография авторов писем сохранена.

**Председатель**
**М.В.ПОДГАЙНЫЙ.**

*Генадзь БУРАЎКІН*

# Перасцярога

## Роздум над пісьмамі

Артыкул Пятра Касцюковіча "Ідэалогія рускага фашызму ў сучасных умовах" ("Народная воля", 6 мая 1998 г.) свядома палемічны і дэманстратыўна абвостраны, не мог не выклікаць водгукаў. І яны з'явіліся.

Перада мною ляжыць восем лістоў (абсалютная большасць іх адрасавана чамусьці не ў рэдакцыю газеты, а ў Дзяржкамітэт па друку) — і ўсе яны крытычныя, з палітычнымі абвінавачаннямі, з патрабаваннямі суровых аргвывадаў. Чытаю, перачытваю іх — і гнеўную споведзь пенсіянеркі Людмілы Якаўлеўны Дрыго, і не менш эмацыянальныя радкі сына інваліда вайны першай групы Рыгора Таржка, і пратэст Уладзіміра Леанідавіча Арэф'ева, і амаль ультыматум майго даўняга знаёмага, старшыні Мінскага гарадскога таварыства рускай культуры "Русь" Генадзя Іванавіча Уласава, і злосныя закіды "патрыётаў Вялікай на ўсе часы Русі" ў асобе старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Камітэт працоўнага народа" (ёсць, аказваецца, і такі) Г.Ю.Волкава, і развагі Вячаслава Васільевіча Рыбнікава, і прэтэнзіі Надзеі Апанасаўны Абрамавай, і горкія папрокі Л.І.Кузьміной — і шчыра падзяляю іхнюю нянавісць да фашызму і трывогу за духоўнае здароўе нашага народа. Каму як не рускім і беларусам вечна памятаць жахі гітлераўскай акупацыі, нечуваныя зверствы эсэсаўцаў, канібальскія планы нацыстаў? На многія-многія пакаленні свастыка і праклятае мільёнамі імя фюрэра трагічна звязаныя для нас з апакаліпсічнымі крывавымі злачынствамі і незлічонымі ахвярамі генацыду цэлых народаў. Тут розных думак быць не можа — і доктар тэхнічных навук П.Касцюковіч таксама не ставіць пад сумненне рашэнні Нюрнбергскага суда. Разыходжанні і супярэчнасці пачынаюцца пазней, калі набліжаемся да нашых дзён і сённяшніх палітычных і ідэалагічных рэалій.

"Пра які фашызм можа ісці гаворка, калі Расія і Беларусь страцілі ў гэтую вайну столькі людзей"? — усклікае Л.Я.Дрыго. "...Абсурд гучыць у гэтых словазлучэннях", — падтрымлівае яе Л.І.Кузьміна. І атрымліваецца, што руская самою гісторыяй надзейна застрахаваны ад карычневай чумы, што пякельная прывіўка Вялікай Айчыннай вайны назаўсёды забіла бацылу фашызму. Ах, як хацеў бы я, каб усё так і было на самай справе!

Але чытаю афіцыйную расійскую прэсу — і з недаўменнем і страхам даведваюся, як нахабна лезе на сцягі атрутны павук свастыкі, як ускідваюцца ў нацысцкім прывітанні маладыя рукі, як пачынаюць набіраць моцы чорнарубашачнікі. Брытагаловым малойчыкам ужо даюць для зборышчаў лепшыя залы ў губернскіх гарадах, іх газеты і кнігі адкрыта прадаюцца на сталічных вуліцах, а іх лідэры рвуцца ў парламентары. Расійскі ўрад нядаўна вымушаны быў унесці ў Дзярждуму праект федэральнага закона "Аб забароне нацысцкай сімволікі і літаратуры". На Баркашова і яго ваенізаваныя фарміраванні азіраюцца не толькі шараговыя міліцыянты, а і аўтарытэтныя палітыкі. А з вуснаў кіраўніка адміністрацыі Краснадарскага краю пад патрыятычныя воплескі гучыць: "Калі паглядзіце ланцужок (я толькі схематычна скажу далей) — тухачэўскія, якіры, фельдманы, убарэвічы і гэтак далей, тыя, як нам гаворыць тэлебачанне, славутыя генералы, — зноў нікога рускага сярод іх. Справа ўрачоў-шкоднікаў — зноў нікога рускіх. Ленінградская справа — ахматавы, зошчанкі і гэтак далей — зноў нікога рускіх..."

Шаноўны Уладзімір Леанідавіч Арэф'еў! Вы ў сваім пісьме называлі Гебельса. А вам нічога не нагадвае тонам і стылістыкай прыведзеная мною цытата? І гаворыць жа такое не затурканы бомж, не раз'юшаны баркашовец, а высокі дзяржаўны муж, які прэтэндуе на прыкметнае месца ў Расіі.

Як мне здаецца: ёсць над чым задумацца.

Той-сёй можа мне сказаць: ну што вы — знайшлі нейкую выпадковасць. Расія — агромністая краіна, у ёй усяго хапае, а сярод чыноўнікаў трапляюцца і людзі нястрыманыя і авантурныя. І ў гэтым будзе свая праўда. Але, на жаль, не ўся. Братняя наша вялікая Расія перажывае крызіс не толькі эканамічны, фінансавы, а і ідэалагічны, духоўны. Адкінуўшы састарэлыя пастулаты марксісцка-ленінскага вучэння, падарваўшы асновы нядаўняга сацыялістычнага грамадства, многія, асабліва моладзь, кінуліся шукаць новыя арыенціры і новых багоў. Культ сілы, культ моцнай улады і жорсткага парадку прывабліваe іх сваёй зразумеласцю і быццам бы эфектыўнасцю. Прыклад саўгаса "Крымгірэеўскі" Стаўрапольскага краю, пра які месяц назад расказалі "Известия", наводзіць на вельмі сумныя думкі.

Там, на радзіме былога кіраўніка КДБ і Генеральнага сакратара ЦК КПСС Ю.Андропава, амаль усё мужчынскае насельніцтва ўступіла ў "Рускае нацыянальнае адзінства", і ўзначаліў мясцовых баркашоўцаў намеснік дырэктара, падпалкоўнік запасу. Моладзь пад яго наглядам асвойвае прыёмы рукапашнага бою, для яе ў атэлье заказана нацысцкая уніформа, а сам бравы падпалкоўнік ходзіць з чырвоным значком-свастыкай на грудзях...

Карычневая баркашоўская пошасць перапаўзла ўжо расійска-беларускую мяжу. Як сведчаць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, у беларускім аддзяленні "Расійскага нацыянальнага адзінства" налічваецца каля тысячы чалавек. На так званым грамадскім тэлебачанні Першамайскага раёна Мінска яны маюць сваю перадачу, а ва Уруччы афіцэр спецназу вучыць страляць з аўтамата Калашнікава і карыстацца сакрэтамі каратэ. Заўважце, паважаны Генадзь Іванавіч Уласаў, не вялікую рускую літаратуру і гісторыю засвойваюць падлеткі са стрыжанымі галовамі і ў цяжкіх падкаваных чаравіках, а баявое вайсковае майстэрства. І ў ліпені яны паспрабавалі прымяніць набытыя веды, напаўшы на ўдзельнікаў санкцыянаванай мірнай дэманстрацыі на праспекце Скарыны. Крычалі пры гэтым: "Рускі парадак!" Вось вам і "Не можа быць!" Можа. І ўжо ёсць!

Давайце не будзем супакойваць сябе і іншых спасылкамі на асаблівыя традыцыі і асаблівыя рысы нашага народа. Не П.Касцюковіч выдумаў рускі фашызм, як лічыць Уладзімір Леанідавіч Арэф'еў, а само жыццё паставіла на парадак дня балючае пытанне пра з'яўленне парасткаў нацызму на нашых славянскіх палетках. П.Касцюковіч не заўсёды дастаткова вытрыманы і асцярожны ў фармулёўках, часам у сваіх высновах не раздзяляе народ і дзяржаву, народ і палітычныя партыі, але праблему закранае надзённую і балючую.

Як мне здаецца, апошнім часам (на жаль, з падачы высокіх дзеячаў) у гарачай палеміцы і нават у бытавых спрэчках надзіва лёгка і часта гучыць страшнае слова "фашыст". Яго кідаюць у адрас палітычных апанентаў, у адрас цэлых грамадскіх аб'яднанняў, а то і проста, каб як мага больш зняважыць непрыемнага чалавека. А фашызм як паняцце, калі даверыць Савецкаму энцыклапедычнаму слоўніку 1979 года, мае на ўвазе перш за ўсё крайнія формы насілля, шавінізм, палітычную дэмагогію.

У водгуках на артыкул П.Касцюковіча даволі многа разважанняў аб адзінстве рускага і беларускага народаў. "Беларускі народ не аддзяляе сябе ад народа рускага", — піша В.В.Рыбнікаў. "Белая, Малая (Украіна) і Вялікая Русь не братні, як нас пераконваюць, а адзіны і недзялімы народ", — катэгарычна заяўляе Г.Ю.Волкаў (захаваны стыль аўтара пісьма). Вялікую рускую культуру (адну!), па перакананні Ул.Л.Арэф'ева, вякамі стваралі рускі, беларускі і ўкраінскі народы.... І чамусьці няма ў гэтых нераўнадушных людзей хаця б фармальных спасылак на суверэнітэт Беларусі і Украіны, на своеасаблівасці іхніх культур і лёсаў. Прымітыўна ўспрынятае і засвоенае славянскае адзінства існуе для іх, апранутае толькі ў касаваротку. Дык, можа, варта ў такім разе велікадушна дараваць беларусам і ўкраінцам іхнюю гарачнасць у адстойванні сваёй самабытнасці і права на ўласную гісторыю і дзяржаўнасць? Мы ж у Мінску вельмі стрымана выслухоўваем небяскрыўдныя пасажы накшталт: "Белая Русь у адзіночку не зможа процістаяць геапалітычным ворагам (прыклад знаходжання Белай Русі пад уладай Рэчы Паспалітай і княства Літоўскага), якіх апазіцыя лічыць сваімі продкамі" або "Сёння прынцып заваёўнікаў "раздзяляй і пануй" аслабіў і раскалоў нашу імперыю..." (старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Камітэт працоўнага народа Г.Ю.Волкаў). Магчыма, трэба больш рашуча даваць "адлуп" падобным непісьменным, правакацыйным заявам...

Пакуль беларусаў нехта будзе лічыць неданацыяй, неданародам, цяжка спадзявацца на давер і паразуменне ў складаных развагах аб шляхах развіцця і інтэграцыі Расіі і Беларусі. Адрыжкі імперскай псіхалогіі, настальгічныя шавіністычныя ўздыханні могуць трагічна нашкодзіць гістарычнаму братэрству і супрацоўніцтву блізкіх славянскіх народаў.

І яшчэ адно горкае адчуванне пры чытанні пісем-водгукаў прыйшло да мяне. Якія мы паспешлівыя, якія самаўпэўненыя і бязлітасныя! Як лёгка чапляем на нязгодных з намі людзей чорныя ярлыкі!

Не прыводзячы ніякіх фактаў і дакументаў, не спрачаючыся з артыкулам П.Касцюковіча па сутнасці (а там сапраўды ёсць з чым сур'ёзна паспрачацца), практычна ўсе аўтары лістоў, якія трапілі ў рэдакцыю праз Дзяржкамдрук, безапеляцыйна выносяць абвінаваўчы прысуд доктару тэхнічных навук: правакатар, русафоб, нацыяналіст. І па-пракурорску прадпісваюць Камітэту па друку (недарэмна ж якраз яму адрасаваны пісьмы): "Такія антынародныя газеты, як "Народная воля" не маюць права на існаванне" (Г.Ю.Волкаў); "За распальванне міжнацыянальнай і рэлігійнай нянавісці газета "Народная воля" вартая крымінальнай адказнасці і не мае права на існаванне" (Ул.Л.Арэф'еў); "Звяртаюся да вас с просьбай аб закрыцці антынароднай і русафобскай газеты "Народная воля" (Г.М.Таржок); "Газеты, якія друкуюць такую хлусню, не павінны існаваць" (Л.Я.Дрыго); "Мы патрабуем, каб газета "Народная воля" за такое грубае парушэнне законаў была зачынена" (Г.І.Уласаў); "Ад імя жывых і мёртвых родных маіх ветэранаў і ад сваёй сям'і патрабую спыніць зняважу і прыкрыць газету "Народная воля" (Л.І.Кузьміна); "...Зрабіце ўсё, што ад вас залежыць, каб у далейшым усялякія "доктары" тыпу Касцюковіча не мелі доступу да сродкаў масавай інфармацыі..." (Н.А.Абрамава)...

Вось так: не патрэбны ні дыскусіі, ні спрэчкі, ні ўрэшце судовы разгляд — закрыць — і ўсё будзе ў парадку, усё будзе ціха і адзінадушна. І зробім выгляд, што на сценах камяніц не з'яўляецца свастыка, што не ходзіць па руках шыкоўна выдадзеная "Майн кампф", што не трэніруюцца пад Масквой і Мінскам дужыя дзяцюкі, гатовыя дзеля навядзення "жалезнага парадку" забіваць суайчыннікаў... Ах, як усё проста і як гэта нагадвае, здавалася б, ужо мінулыя гады!..

А можа, давайце ўспрымем не бездакорны навуковы і публіцыстычны артыкул П.Касцюковіча як крык перасцярогі аб небяспецы матэрыялізацыі пачварнага прывіду фашызму? Памятаеце перадсмяротны запавет славяніна Юліуса Фучыка: "Людзі, будзьце пільныя!"?.

Спорт

## У беларусаў — бронза!

23 жніўня ў Будапешце завяршыўся 17-ты чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы. Найбольшую колькасць медалёў заваявалі каманды Германіі — 23 (8 залатых, 7 сярэбраных і 8 бронзавых), Расіі — 22 (6, 9, 7) і Вялікабрытаніі — 16 (9, 4, 3).

Вельмі няўдачна выступіла ў Венгрыі зборная Беларусі. На яе рахунку толькі дзве бронзавыя ўзнагароды — у Яніны Карольчык у штурханні ядра і Наталлі Сазановіч у сямібор'і.

## Скачуць-скачуць...

Рэзкае падзенне рыначнага курсу беларускага рубля на мінулым тыдні выклікала істотны рост цэн у неарганізаваным гандлі Мінска. Так, алей падаражаў за тыдзень у сярэднім на 17 працэнтаў, мука — на 16, цукар — на 12, крупы і імпартныя цыгарэты — на 11, жывёльнае масла і курынае мяса — на 7, макаронныя вырабы і ялавічына — на 6, хлебабулачныя вырабы — на 4, цвёрдыя сыры — на 3 працэнты.

Павышэнне кошту шэрагу харчовых тавараў адзначана на мінулым тыдні і ў сталічных магазінах. Жывёльнае масла падаражала на 5 працэнтаў, асобныя віду хлебабулачных вырабаў — на 3—4 працэнты, малочныя прадукты і ялавічына — на 3, яйкі — на 2 працэнты.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**



## Разводзіцца і скардзіцца — сабе даражэй

Скасаваць шлюб або паскардзіцца на чыноўніка ў суд для многіх у Беларусі стала ўжо даволі дорага. Дзяржаўны падатковы камітэт выканаў пастанову Савета Міністраў "Аб унясенні змяненняў у стаўкі дзяржаўнай пошліны" і зацвердзіў шэраг новаўвядзенняў у метадычныя ўказанні "Аб дзяржаўнай пошліне".

Напрыклад, калі вы задумалі скасаваць свой другі шлюб, то пры падачы іскавой заявы ў суд памер пошліны, якую трэба заплаціць, ужо складзе не 30 працэнтаў мінімальнай зарплаты, як было яшчэ нядаўна, а цэлых тры "мінімалкі". Першае ж скасаванне няўдачных сямейных вузаў будзе каштаваць толькі дзве мінімальныя зарплаты. А калі вам неабходна звярнуцца ў суд са скаргай на непраўмерныя дзеянні органаў дзяржкіравання і службовых асоб, якія ўшчамляюць вашы правы, то рыхтуйце суму для выплаты дзяржпошліны, роўную ўжо адной мінімальнай зарплаце, а не 20 працэнтам яе велічыні, як было раней. Змяненні закранулі і некаторыя іншыя віды дзяржаўных збораў, што спаганяюцца з заяў і скаргаў, якія падаюцца ў суд, і за выдачу ім копій дакументаў.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Криминал

## Наступил "маковый" сезон

В последнее время на Брестчине наблюдается заметное оживление среди торговцев маковой соломкой. Как сообщили корреспонденту БелТА в пресс-службе УВД облисполкома, в Бресте на улице Центральной сотрудники органов правопорядка задержали нигде не работающего 28-летнего брестчанина, при котором было обнаружено около 3,5 килограмма маковой соломки. А накануне в одной из брестских квартир у ранее судимого хозяина было изъято почти 600 граммов молотой маковой отравы. Теперь по этим фактам ведется следствие.

## Грабеж средь бела дня...

... устроили в поселке Городец Кобринского района местный житель и его молодой "сотоварищ", проживающий в Воронеже и приехавший отведать свою бабушку. Они пристали к начальнику штаба дивизиона одной из воинских частей, который живет в Ивацевичах, избили его и отобрали 15 миллионов белорусских рублей и 300 американских долларов. Сотрудники милиции оперативно "вычислили" и арестовали грабителей. Против них возбуждено уголовное дело.

## Снова "ничейная" контрабанда

В кабине польского тепловоза брестские таможенники обнаружили тщательно оборудованный тайник. Из него было извлечено около 70 литров спирта и 210 блоков сигарет импортного производства. Вся эта контрабанда потянула на 170 миллионов рублей. Польский машинист сей товар своим не признал и заявил, что не знает, откуда он взялся в кабине локомотива.

**Иван КУКСА.**

## Контрабандисты пытались вывезти зерно

Автомобиль КАМАЗ, в кузове которого находилось 17 тонн ячменя, задержан недалеко от пункта пропуска Мохро в Ивановском районе. Попытка вывоза зерна с территории Беларуси на Украину, минуя пункт пропуска, была предпринята двумя россиянами и украинцем.

Как сообщили БелТА в пресс-службе Главного управления Пограничных Войск Беларуси, все контрабандисты задержаны. Груз передан Пинской таможне.

**Людмила КЛАСКОВСКАЯ, БелТА.**

## Хоць ты дзверы не адчыняй

Празмерная даверлівасць многіх людзей, лёгка пускаючых у сваё жыллё незнаёмых, усё часцей прыводзіць іх гаспадароў калі не да гібелі, дык да значных матэрыяльных страт. Вось і віцяблянка Л. у абедзены перапынак адчыніла дзверы ў кватэру, не пацікавіўшыся, хто націснуў на званок. У адно імгненне ў пакой уварваліся двое ў масках, звязалі гаспадыню, пазбавіўшы яе магчымасці паклікаць на дапамогу. Злодзеі забралі з сабою відэа- і аўдыёапаратуру, лепшае адзенне і з'ехалі на машыне ў невядомым накірунку.

Па схожаму сцэнарыю дзейнічалі рабаўнікі на тым тыдні і ў Наваполацку. Тут таксама а палове пятага днём адчыніў на званок кватэру часова не працуючы К., які і не мог падумаць пра вынікі сваёй бяспечнасці. Напэўна, па чыёйсьці наводцы ў кватэру ўварваліся трое ў масках з пісталетам, бо меркавалі аб наяўнасці ў гаражаніна валюты. Каля 7 тысяч зробленых долараў прыйшлося аддаць бандытам, каб пазбегнуць смерці. У абодвух выпадках знайсці злачынцаў міліцыі будзе няпроста, бо сёлета ў рэгіёне зафіксаваны рост разбойных нападаў з-за аслабленай пільнасці людзей.

**Уладзімір ШЫК.**

Стыль

## Пакуль былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў "бавіць час" у следчым ізалятары, жнівом займаецца яго сусед міністр сувязі Уладзімір Ганчарэнка

Прызнацца, мяне заўсёды замілоўвае, як нашыя міністры, кіраўнікі іншых устаноў, словам, сённяшняя наменклатура, вяшчаючы прапісныя ісціны, не мінаюць выпадку, каб падзякаваць альбо зрабіць камплімент прэзідэнту краіны А.Р.Лукашэнку.

Не стаў выключэннем і міністр сувязі Уладзімір Іванавіч Ганчарэнка, якога на перыяд уборкі "замацавалі" за Гомельскай вобласцю. У інтэрв'ю дзяржаўнаму выданню ён не прамінуў (так і хочацца сказаць "прагнуцца", але, мажліва, упаўнаважаны з Мінска выказаўся асабліва шчыра, таму загадзя прашу прабачэння) заўважыць:

*"...Президент особо попросил меня больше внимания обратить на людей. Чтобы они ничем не были обижены, обделены. Чтобы ни в коем случае не подумали, что о них забыли".*

І яшчэ не забывае Уладзімір Іванавіч добра выказацца ў свой бок (бо хто ж сёння міністраў хваліць) і зрабіць гэта так, каб і кіраўніка дзяржавы не пакрыўдзіць:

*"...Замечаний в мой адрес практически не было, но хорошие, деловые советы от президента мне были даны, и я их использую в работе".*

Умее "выкарыстоўваць" важкія парады Уладзімір Іванавіч, а яшчэ больш абяцаць: да 25—26 жніўня, калі, зразумела, не падвядзе надвор'е, каласавыя на Гомельшчыне, як запэўнівае ўпаўнаважаны Ганчарэнка, будуць скошаны і абмалочаны, а да 1 верасня тут управяцца і з ільном.

Добра, канешне, што ў нас такая здатная наменклатура: што ні міністр, то асоба — ён і жнец, і швец, і на дудзе ігрэц. У адной вобласці на ўборцы ўладарыць галоўны сувязіст Уладзімір Ганчарэнка, у другой — галоўны банкір Пётр Пракаповіч, у трэцяй...

На вялікі роздум наводзіць такі падыход да расстаноўкі нашых "арганізуючых, мабілізуючых і натхняючых" кадраў. "Партыя ўлады", хаця, як вядома, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка адмоўна ставіцца да сваёй асабістай належнасці да якой-небудзь партыі, пераняла традыцыі сваіх папярэднікаў: а навошта новае прыдумляць, калі ёсць "праверaныя метады"? І быццам бы няма ў Гомелі старшыні аблвыканкама Мікалая Рыгоравіча Вайцянкова, а ў Мінску — Пятра Пятровіча Пётуха, а ў Магілёве... Віцебску... Брэсце... І паехалі-паехалі ўпаўнаважаныя, а за імі — і першыя асобы рэспублікі.

Нездарма ж асабліва ганарыцца У.І.Ганчарэнка, што давялося яму разам з прэм'ер-міністрам Сяргеем Сцяпанавічам Лінгам абляцець на верталёце амаль усё Палессе, адразу дзве вобласці — Гомельскую і Брэсцкую. Магчыма, што як для міністра сувязі гэта і карысна: дзякуючы ўборцы-жніву хоць бліжэй даведаўся аб рабоце падраздзяленняў сувязі ў палескай глыбінцы. Бо людзі ўсё скажуць, як ёсць.

Але ж цяжка ўявіць, што ў родным "каралеўстве" Ганчарэнкі ўсе справы вырашаны і людзі задаволены. Сёння кожнаму жыхару сталіцы і самай аддаленай вёскі вядома, якія непамерныя тарыфы ўстанавіла Міністэрства сувязі за ўстаноўку таго ж тэлефона. Ды і плата за дастаўку выданняў усё яшчэ перавышае іх сабекошт... У такім багатым міністэрстве, можа, і сапраўды не існуе праблем з выплатай зарплаты, абнаўленнем транспарту і г.д. Але ж усё гэта робіцца за кошт падаткаплацельшчыкаў, нас з вамі, паважаныя чытачы-падпісчыкі...

Узнікае яшчэ пытанне: няўжо ў нашым Нацыянальным банку ўжо ўсё зроблена так, што яго старшыні Пятру Пракаповічу можна кіраваць установай, так бы мовіць, на адлегласці?! Але пакуль "заяц" усё скача за доларам, ці ж трэба галаву Нацбанка адхіляць ад непасрэдна "банкірскіх" спраў? Мяне, напрыклад, усё апаноўвае, не дае спакою пытанне: а ці трэба было здымаць з пасады папярэдніка Пракаповіча, калі гісторыя з доларам ужо пры новым галоўным банкіры двойчы паўтарылася? Відаць, справа ў сістэме, а не ў кіруючых асобах.

І яшчэ. Пакуль сапраўдны спецыяліст сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў знаходзіцца за кратамі, яго сусед па месцы жыхарства міністр сувязі Уладзімір Ганчарэнка "ўпаўнаважаны" займацца ўборкай.

Знаўцы сцвярджаюць, што адной з прычын арышту Лявонава з'явілася ўзвядзенне ім быццам бы прываблівага дома ў прыгарадзе сталіцы: маўляў, пабудаваў не за свае грошы. Але ж яго суседам з'яўляецца У.І.Ганчарэнка. І будаваліся ў адзін час, і дамы ўзводзілі па адным праекце (у дужках заўважу: даволі сціплым). Аднак адзін міністр, выходзіць, меў права і грошы, каб будаваць, а другому, калі гэтага захацелі зверху, пачалі абмерваць не толькі пабудову, але і плот. Ці ж не палітыка двайнога стандарту ў дзеянні?

Калі я шукаў у прыгарадзе сядзібы двух міністраў, то разгаварыўся з адным вяскоўцам. Ён сказаў: "Па Лявонаву можна было на гадзіннік не глядзець: у сем раніцы імчаў на працу. А вось па Ганчарэнку заўсёды можна даведацца, дзе знаходзіцца прэзідэнт: калі міністр спяшаецца да дзевяці, значыць, Лукашэнка ў Мінску, калі пасля — у ад'ездзе...

Такі сёння час: той, хто не любіў рабіць кампліментаў, "бавіць час" у следчым ізалятары, а "чэсны" міністр, які сумеў наладзіць з уладарнымі асобамі добрыя сувязі, зараз кінуты на прарыў — падымаць сельскую гаспадарку. І ў родным міністэрстве ў яго сувязь устойлівая. Не дасаджаюць сям'і і падатковыя інспектары. Усё ідзе добра...

**Віктар СВІРКО.**

Стоп-кадр

## "Изобрели" на селе велосипед. Двухместный...

Двухместный велосипед смастерили братья Романовичи — студент Белорусской политехнической академии Евгений и восьмиклассник Дима из деревни Литвиновичи Дятловского района. Конечно не без помощи отца — учителя труда местной школы Валерия Александровича. И ездят теперь ребята на колхозный зерноток, где помогают работать односельчанам.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

## Госавтоинспекция намерена объявить войну пьяному беспределу на дорогах республики

Тревожной ситуации, которая уже не первый месяц существует на больших и малых дорогах республики, будет положен конец. Речь идет о неуклонном росте дорожно-транспортных происшествий из-за нетрезвых водителей. Как сообщили корреспонденту БелТА в Управлении Госавтоинспекции, в сентябре Министерство внутренних дел намерено провести крупномасштабную операцию по наведению порядка на дорогах, укреплению дисциплины в трудовых коллективах автопредприятий.

Оснований для такой акции более чем достаточно. Взять, к примеру, оперативную сводку ГАИ за минувшие выходные и пятницу. Только за три дня при выборочных проверках задержано 936 пьяных водителей. Велик и перечень зафиксированных автоаварий. Причем в большинстве случаев причиной их стала именно нетрезвость находившегося за рулем человека. В Оршанском районе водитель автомобиля "Опель", будучи пьяным, наехал на гражданина из Орла, который на трассе толкал в попутном направлении свой неисправный "Форд". От полученных травм россиянин скончался. В Столинском районе пьяный водитель загнал свой "Форд" в кювет, где автомобиль опрокинулся. Хозяин "Форда" скончался. В Докшицком районе неработающий местный житель, управляя в нетрезвом состоянии мотоциклом, тоже опрокинулся и умер в больнице. В Витебске на автомобиле "Жигули" был совершен наезд на пешехода. Оказавшийся под колесами человек погиб. Водитель "Жигулей" был пьян.

**Татьяна СМИРНОВА, БелТА.**

